XVIII
7425

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# АБВЕСЬНІК

Народнага Камісарыяту АСЬВЕТЫ Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі.

ВЫДАНЬНЕ АФІЦЫЯЛЬНАЕ.

| № 2. | ВЫХОДЗІЦЬ 2 РАЗЫ Ў МЕСЯЦ<br>Менск, пляц Волі № 23/2. ▣ ТЭЛ. 2—21. | 1 лютага<br>1925 г. |
|---|---|---|

29 ЧЭР. 1925

## Пастанова Цэнтральнага Выканаўчага Комітэту Б. С. С. Р.

Прэзыдыум Ц.В.К. БССР на пасяджэньні сваім 16 студзеня 1925 г. разглядзеў, між іншымі, вось якое пытаньне, прыняўшы па ім такую пастанову (пратакол № 27).

*1. (519). Хаданіцтва НКАБ аб загадзе Аршанскаму Акруговаму Выканаўчаму Камітэту перадаць музэйныя рэчы, якія знаходзяцца ў Горках, Беларускаму Дзяржаўнаму Музэю. (Дакл. т. Харламповіча).*

а) Пастанову Аршанскага Акр. Выканаўчага Комітэту ад 12 сьнежня 1924 г. (пратакол № 20), аб залічэньні маемасьці Горацкага Музэю ў Аршанскі Акруговы Музэй, скасаваць.

б) На падставе пастановы Прэзыдыуму Ц.В.К. і СНК ад 6 сьнежня 1924 г. (пратак. Прэзыд. ад 6/1-1924 г. № 24, п. 445) музэйныя рэчы б. Горацкага музэю павінны быць перададзены Беларускаму Дзяржаунаму Музэю, як рэчы, якія ня маюць выключна краязнаўчага характару.

## Пастановы Савету Народных Камісараў Б.С.С.Р.

**2. Аб наданьні студэнтам, якія выключаны ў часе акадэмічнае пераверкі, права паступаць у вышэйшыя школьныя установы і здаваць экзамены за курс вышэйшых школьных устаноў ды тэхнікумаў.**

*29 кастрычніка 1924 г. (Пратак. № 50, ст. 698).*

Савет Народных Камісараў БССР пастанаўляе:

1. Надаць студэнтам першага курсу ўсіх факультэтаў вышэйшых школьных устаноў БССР, якія выключаны ў часе акадэмічнае пераверкі, права паступаць у 1925-26 школьным годзе ў ВУЗ'ы на агульных падставах.

2. Надаць студэнтам перадапошняга курсу ўсіх факультэтаў права трымаць у працягу 1924-25 і 1925-26 школьных гадоў экзамены за поўны курс адпаведнага ВУЗ'у.

3. Надаць студэнтам усіх курсаў, пачынаючы з другога, права трымаць экзамены за курс адпаведных тэхнікумаў упрацягу 1924-25 і 1925-26 школьных гадоў.

4. Спыніць прыйманьне ад выключаных студэнтаў заяў аб аднаўленьні ў правох студэнтаў. Даручыць Цэнтральнай Пераверачнай Камісіі разгледзіць у працягу трох дзён усе заявы, якія былі пададзены да выданьня гэтае пастановы, пасьля чаго памянёную Камісію распусьціць.

5. Даручыць Народнаму Камісарыяту Асьветы выдаць наказ па ужываньню гэтае пастановы.

Старшыня СНКБ *І. Адамовіч.*
Кіраўнік спраў *П. Зубовіч.*

### 3. Аб упарадкаваньні кіно-справы БССР.

*17 сьнежня 1924 г. (Пратак. № 52, п. 747).*

У мэтах упарадкаваньня кіно-справы БССР Савет Народных Камісараў пастанаўляе:

1. Арганізаваць пры НКАБ Управу па справах кіно (Белгоскіно), *чыннае на падставах гаспадарчага разрахунку* з правамі юрыдычнае асобы.

2. Аддаць Управе па справах кіно манапольнае права на пракат кіно-фільм на ўсім абшары БССР.

*Увага:* Управе дазваляецца перадаваць свае права манаполіі на пракат кіно-істужак цалком ці ў частцы на падставах умовы з рознымі арганізацыямі і прыватнымі асобамі, прычым умовы з прыватнымі арганізацыямі і асобамі зацьвярджаюцца НКАБ.

3. Дзеля ўтварэньня асноўнага капіталу перадаць пад загад Белгоскіно па два самых вялікіх кінотографы з усімі прыладамі ў Менску і Віцебску.

4. Дазволіць Белгоскіно рэарганізавацца ў таварыства на паёх, уцягваючы як дзяржаўны, так і прыватны капітал.

5. Белгоскіно аддаецца права арганізацыі ўласных кіно, а таксама права прыняцьця пад свой загад існуючых кіно паводле згоды з Акруговымі Выканаўчымі Комітэтамі, ці па асобнай пастанове Савету Народных Камісараў.

6. Адчыненьне новых кіно-тэатраў і кіно-прадпрыемстваў робіцца з дазволу мясцовых Выканаўчых Комітэтаў па згодзе з Белгоскіно.

7. Дазвол на кіно-зьнімку, зьнімку здарэньняў унутранага жыцьця Беларускае Рэспублікі выдаецца мясцовымі установамі Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў па згодзе з Белгоскіно.

8. Нарушэньне манапольнага права пракату караецца па ст. 133 карнага кодэксу.

9. Гэтая пастанова не абмяжоўвае праў Пролеткіно на абшары БССР, які прадугледжаны яго статутам.

10. НКАБ даручаецца ў месячны тэрмін выдаць наказ па ўжываньню гэтае пастановы і палажэньня аб Белгоскіно.

Намесьнік старшыні СНКБ *Гэльтман.*

Кіраўнік Спраў *Зубовіч.*

### 4. Аб зацьвярджэньні сьпіску навукова-пэдагагічных установ, якія знаходзяцца на абшарах БССР і якім павінна быць нададзена права бязмытнага і безакцызнага атрыманьня з-за меж навуковых дапамог, кніжок, прыладаў і інструмэнтаў, неабходных дзеля навуковых і навучальных мэт.

*17 сьнежня 1924 году (пратакол № 53, ст 764).*

Савет Народных Камісараў пастанаўляе:

1. Прызнаць неабходным надаць права бязмытнага і бэзакцызнага атрыманьня з-за меж навуковых дапамог, кніжок, прылад і інструмэнтаў, неабходных дзеля навуковых і навучальных мэт, ніжэй пералічаным установам, якія знаходзяцца на абшарах БССР:

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Народны Камісарыят Асьветы Беларусі .. | Менск. |
| 2. | Інстытут Беларускае Культуры . . | „ |
| 3. | Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт . . | „ |
| 4. | Беларускі Дзяржаўны Музэй . . . | „ |
| 5. | Беларускі Дзяржаўны Інстытут Сельскае Гаспадаркі . . | „ |
| 6. | Беларуская Дзяржаўная Бібліатэка . . | „ |
| 7. | Горацкі Сельска-Гаспадарчы Інстытут . | Горкі. |
| 8. | Вэтэрынар. Інстытут . | Віцябск |
| 9. | Станцыя лекавых расьлін . . . | Магілеў |
| 10. | Цэнтральная Партыйная Школа (Комвуз) | Менск. |
| 11. | Музычны Технікум . | „ |
| 12. | Бактэрыолёгічны Інстытут . . . | Віцябск |

13. Горацкая Дасьледчая Станцыя . . . Горкі.
14. Зоотэхнічная Дасьледчая Станцыя . Менск.
15. Мэтэоролёгічнае Бюро „
16. Дасьледчая Станцыя па барацьбе са шкоднікамі . . . „
17. Балотная Станцыя . „

2. Даручыць Народнаму Камісарыяту Асьветы БССР пераслаць гэты сьпіс у Народны Камісарыят Вонкавага Гандлю СССР дзеля уключэньня ў агульна-саюзны сьпіс навукова-пэдагагічных установ, якім надаецца права бязьмытнага і бэзакцызнага атрыманьня з-за меж навуковых дапамог, кніжок, прылад і інструмэнтаў, неабходных дзеля навуковых і навучальных мэт.

Нам. Старшыні СНКБ *Гэльтман.*

Кіраўнік Спраў *Зубовіч.*

5. **Аб напісах і вывесках на нацыянальных мовах.**

*25 сьнежня 1924 г. (Пратак. № 50, ст. 687).*

Маючы на мэце зьдзейсьніць мерапрыемствы па правядзеньню нацыянальнае палітыкі, якія намеціла другая сэсія Цэнтральнага Выканаўчага Комітэту БССР шостага скліку. Савет Народных Камісараў пастанаўляе:

1. Запрапанаваць усім дзяржаўным, каапэрацыйным, прафэсыянальным ды грамадзкім установам, прадпрыемствам і арганізацыям увесьці на 1 лютага 1925 году карыстаньне вывескамі і напісамі на будынках і памяшканьнях, якія яны займаюць, на чатырох мясцовых мовах БССР.

2. Устанавіць вось які парадак увядзеньня памянёных у ст. 1 напісаў і вывесак: усе цэнтральныя і акруговыя установы і арганізацыі абавязаны мець вывескі і напісы на 4-х мовах: беларускай, жыдоўскай, расейскай ды польскай; усе-ж іншыя ўстановы і арганізацыі абавязкова павінны мець напісы на беларускай мове. Напісы-ж на аднэй з іншых трох моваў ўжываюцца у залежнасьці ад нацыянальнага складу насяленьня дадзенае мясцовасьці ды ад характару працы арганізацыі ці установы.

3. Нагляд за выкананьнем гэтае пастановы ўскладаецца на Народны Камісарыят Унутраных Спраў.

Старшыня СНКБ І. *Адамовіч.*

Кіраўнік Спраў *Зубовіч.*

**СНКБ на пасяджэньнях сваіх 24 сьнежня 1924 г. і 3, 6, 14 і 21 студзеня 1925 г. рагледзіў, між іншым і, вось якія пытаньні, прыняўшы па іх такія пастановы:**

*А. Пасяджэньне 24/XII 1924 г. (Пратакол № 53).*

*18. (763) Аб дазволе Горацкаму Сел.-Гасп. Інстытуту высячы ў бягучым фінансавым годзе адну нормальную лесасеку ўзвыш каштарысу па ўсіх перададзеных Інстытуту лясьніцтвах.*

1) Дзеля выкананьня безадкладных рамонтна-будаўнічых працаў па Горацкаму Сел.-Гасп. Інстытуту, дазволіць Інстытуту высячы ў бягучым фінансавым годзе адну нормальную лесасеку ўзвыш каштарысу па ўсіх перададзеных яму лясьніцтвах, з пунктуальным захаваньнем § 19 Ляснога Кодаксу.

2) Запрапанаваць Горацкаму Сел.-Гасп. Інстытуту выдаваць сродкі, якія ён атрымае ад рэалізацыі памяненае лесасекі, па каштарысу НКФБ.

*19 (764). Паведамленьне Старшыні СНКБ аб зацьвярджэньні ім сьпісу навукова-пэдагогічных установ БССР, якія маюць права бязмытнага і бэзакцызнага атрыманьня з-за межаў навуковых дапамог, кніжак, прылад і інструмэнтаў, неабходных дзеля навуковых і навучальных мэт.*

Прыняць да ведама.

*Б. Пасяджэньне 3/I. 1925 г. (Пратакол № 54).*

*20 (767). Аб ліквідацыі ўсіх не беларускіх кніжна-гандлёвых прадстаўніцтваў і агенстваў на абшарах БССР і аб наданьні Дзяржаўнаму Выдавецтву права пашырэньня друкарскіх выданьняў.*

Запрапанаваць Камісіі Нар. Камісар. Работн. Сел. Інспэкцыі (РКІ),

зрабіўшы дасьледы дзейнасьці прадстаўніцтваў, вывучыць праэкт, які ўнесла Дзяржаўнае Выдавецтва і свае конкрэтныя прапазыцыі перадаць на вырашэньне Экономічнае Нарады (ЭКОСО).

*В. Пасяджэньне 6/I 1925 г. (Пратакол № 55).*

21 (*787*). *Праэкт пастановы аб уключэньні у мясцовы буджэт Віцябскае акругі выдаткаў на ўтрыманьне разьмярковачна-наглядальнага пункту і школы—інтэрнату для разумова-адсталых дзяцей*

1) Запрапанавать НКФБ выдаткі ў суме 9661 руб. уключыць у мясцовы буджэт.

2) Запрапанаваць НКФБ і НКАБ пры складаньні каштарысу на 1925/26 буджэтны год уключыць у каштарыс выдаткі на ўтрыманьне разьмярковачна-наглядальнага пункту і школы—інтэрнату для разумова-адсталых дзяцей.

22 (*791*) *Паведамленьне НКФБ аб тым, што Саюзны СНК даў сродкі на патрэбы народнае асьветы і ліквідацыі няпісьменнасьці ў БССР.*

Даручыць НКФБ і НКАБ даць на зацьвярджэньне СНКБ праэкт, як скарыстаць і разьмяркаваць па акругах сродкі, якія дадзены Урадам СССР на патрэбы народнае асьветы і ліквідацыі няпісьменнасьці.

*Г. Пасяджэньне 14/I 1925 г. (Пратакол № 56).*

23 (*813*). *Асьведамленьне т. Карпа, што Саюзны СНК даў Беларусі на ліквідацыю няпісьменнасьці 72.000 рублёў.*

1) Даручыць НКАБ скласьці плян разьмяркаваньня 72.000 руб па акругах.

2) Скасаваць пастанову СНКБ аб выдачы з запаснага фонду 31.000 р. на ліквідацыю няпісьменнасьці і запрапанаваць НКАБ мець на увазе гэтыя выдаткі пры складаньні пляну разьмяркаваньня сродкаў па бюджэту.

24 (*814*). *Прапазыцыя аб скасаваньні пастановы СНКБ аб выдачы НКАБ з запаснага фонду 71.880 руб. на стыпэндыі, у зьвязку з тым, што СНК СССР даў па бюджэту 270.000 руб. на павялічэньне стыпэндый ды на іншыя культурныя патрэбы.*

Пастанову СНКБ аб выдачы НКАБ з запаснага фонду 71.880 руб. на стыпэндыі лічыць скасаванай.

*25. (815). Аб разьмяркаваньні фонду 270.000 р. на патрэбы народнае асьветы.* (*Дакл. НКФБ*).

1) Стаўку прафэсарам ВУЗ'аў устанавіць з разрахунку 80 рублёў што-месяц за камплект. Выдаць ня болей 50.000 руб. на выплату прафэсарам, выкладчыкам і асыстэнтам ВУЗ'аў. Разьмяркаваньне гэтае сумы даручыць НКАБ супольна з НКЗБ і Саюзам Працаўнікоў Асьветы, зраўняўшы адначасна стаўкі па ВУЗ'ах Беларусі.

2) Выдаць на павялічэньне разьмеру і колькасьці стыпэндый студэнтам і вучням 111.595 руб.

Даручыць НКАБ і НКЗБ узгодніць плян разьмеркаваньня гэтае сумы па установах, кіруючыся ў першую чаргу на неабходнасьць павялічэньня якасьці стыпэндый.

3) Выдаць з гэтага фонду 64.215 р. на павялічэньне заробку працаўнікам у партыйных школах паводле пастановы Камісіі пры Народным Камісарыяце Працы (НКТБ) ад 28 лістапада 1924 г.

4) Выдаць 25.000 рублёў на розныя камунальныя ды іншыя патрэбы на паляпшэньне быцьця студэнтаў і вучняў ВУЗ'аў. Даручыць НКАБ і НКЗБ прыкінуць плян разьмеркаваньня.

5) Рэшту грошай перадаць на ўзмацненьне політ-асьветнае працы на вёсцы.

6) Канчальнае разьмяркаваньне гэтага фонду даручыць НКФБ, НКАБ і НКЗБ; узгодніўшы, перадаць на зацьвярджэньне Старшыні СНКБ.

26 (*816-а*). *Аб разьмяркаваньні прыбыткаў ад Госторгбелу.*

. . . . . . . . . . . . .

Зацьвердзіць выдаткі за кошт прыбыткау Госторгбелу за 1922-1923 год:

е) На рамонт будынку Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту . . . . . . 15.000 р.

ж) Дапамога унівэрсытэту на папаўненьне бібліатэкі . . . . . . 3.000 р.

з) Дзяржаўнаму тэатру на падрыхтаваўчыя працы да зімовага сэзону . 2.000 р.

. . . . . . . . . . . . . . .

і) Запазыка на выданьне твораў Леніна . . . 10.000 р.

*27 (823). Паведамленьні старшыні СНКБ.*

. . . . . . . . . . . . . . .

*2) Аб зацьвярджэньні т. Гуткоўскага прадстаўніком у бюро кнігамену Камісіі Замежнае Дапамогі пры ЦВК, СССР.*

Прыняць да ведама.

*Д. Пасяджэньне 21/1-1925 г. (Пратакол № 57).*

*28 (830). Аб складзе кіраўніцтва Віцябскага Вэтэрынарнага Інстытуту.*

Увайсьці ў Прэзыдыум ЦВК БССР аб зацьвярджэньні наступнага складу кіраўніцтва Віцебскага Вэтэрынарнага Інстытуту:

т. **Алонаў**—рэктар,

т. **Віткоўскі**—прарэктар па адміністрат. галіне,

проф. **Прозараў**—прарэктар па школьнай галіне.

**Хруцкі**—прадстаўнік Выкан. Бюро студэнтаў.

**Шмыроў**—прадстаўнік ад саюзу працаўнікоў зямлі і лесу.

*29 (832). Аб аслабаненьні т. Мароза ад абавязкаў Загадчыка Дзяржаўнага Выдавецтва.*

1) Аслабаніць т. Мароза ад абавязкаў загадчыка Дзяржаўнага Выдавецтва.

2) На пасаду Загадчыка Дзяржаўнага Выдавецтва прызначыць т. Жылуновіча, з захаваньнем за ім пасады Загадчыка Цэнтраархіву.

*30 (834). Хадайніцтва НКАБ аб дазволе склікаць на 2 лютага зьезд інспэктароў і інструктароў па соцыяльнаму выхаваньню.*

Дазволіць НКАБ склікаць на 2 лютага зьезд інспэктароў і інструктароў па соцыяльнаму выхаваньню.

*31 (838). Аб заробку працаўнікоў праф.-тэхнічных школ і інш.*

1) Устанавіць вось якія разьмеры заробку інструктаром праф.-тэхнічных школ і індустрыяльных тэхнікумаў, якія знаходзяцца на дзяржаўным буджэце:

а) па Менскай і Віцябскай акругах . . . . . . . . 68 р.
б) па рэшце акругаў . . 50 р.
в) па раёнах . . . . . 40 р.

2) Загадчыкам тэхнікумаў і загадчыку вышэйшых курсаў Беларусазнаўства ўстанавіць стаўку ў разьмеры 80 р. што-месяц.

3) Запрапанаваць НКФБ супольна з НКАБ устанавіць у тыднёвы тэрмін дадатковыя сумы, якія трэба выдаць у зьвязку з зацьвярджэньнем паказаных разьмераў заробку і перадаць на зацьвярджэньне старшыні СНКБ.

---

## ЗАГАДЫ
### Народнага Камісарыяту Асьветы.

*(За тэрмін з 21 сьнежня 1924 г. па 21 студзеня 1925 г.)*

### По кіраўніцтву спраў.

У дадатак да загаду № 214, § 1, ад 16 сьнежня 1924 г., зімовы адпачынак вызначаецца:

1. На Вышэйшых Курсах Беларусазнаўства—з 25 сьнежня 1924 г. па 10 студзеня 1925 г. ўключна;

2. У вячэрніх школах падвышанага тыпу і ў школах работніцкае моладзі—з 25 сьнежня 1924 г. па 10 студзеня і з 10 па 25 красавіка 1925 г. ўключна;

3. Менскім Беларускім Пэдагагічным Тэхнікуме з прычыны таго, што ў памяшканьні Тэхнікуму арганізуюцца курсы беларусазнаўства для настаўнікаў Гомельшчыны, —з 25 сьнежня 1924 г. па 25 студзеня 1925 г. ўключна. (№ 222, § 1, 22—XII—1924 г.).

——

Дзеля вывучваньня пытаньняў дзіцячага руху стварыць пры НКАБ Камісію ў складзе двох прадстаўнікаў ад дзіцячага бюро КСМБ., Сэкратара Навукова-Мэтодолёгічнае Камісіі Галоўпалітасьветы Уладзіміра **Страчынскага**, Галоўнага Інспэктара Пэдагагічнае Асьветы Артура **Гіршгорна**.

Старшынёй Камісіі прызначаецца прадстаўнік ад дзіцячага бюро КСМБ **Меерзон Дзіна**.

Матар'ялы сваей працы Камісія мае прадставіць на разгляд Навукова-Мэтадалёгічнага Камітэту. (№ 224, § 1, 25—XII, 1924 г.).

———

На падставе пункту I пастановы СНКБ ад 17 сьнежня 1924 г. аб упарадкаваньні справы кіно ў БССР утвараецца ў складзе Наркамасьветы Управа па справах кіно (Белгоскіно). № 225, § 1, 25—XII, 1924 г.).

———

Дзеля таго, што на арганізацыю вызначанных паводле каляндарнага пляну нарадаў ды зьездаў трэба спачатку атрымаць дазвол СНКБ і ў мэтах аб'яднаньня працы па арганізацыі зьездаў агульная падрыхтоўка і інфармацыя аб зьездах ускладаецца на Кіраўніцтва Спраў, а адпаведныя Галоўныя Управы клапацяцца аб падрыхтоўцы дакладаў арганізацыі сакратарыяту і гаспадарчага боку, паколькі гэта не даручана спэцыяльным асобам ці Камісіям.

(№ 227, § 1, 26—XII, 1924 г.).

### Па Грашова-Гаспадарчаму Аддзелу.

НКАБ наказам ад 26 верасьня 1924 г. за № 7423 запрапанаваў усім беспасярэдна падпарадкаваным яму установам прыслаць весткі аб стане грашовых і матар'яльных каштоўнасьцяў ды інвэнтару на 1 кастрычніка 1924 г.

Наказ гэты выканала толькі нязначная частка установ, дзеля чаго НКАБ 19 лістапада 1924 г. за № 8993 паўторна загадаў даставіць памянёныя весткі абавязкова на 1 сьнежня 1924 г.

Але, ня гледзячы нават на гэта, вось якія установы да самага апошняга часу не даставілі патрэбных НКАБ вестак:

1. Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт ды Раб. Факультэт.
2. Магілёўскае Аддзяленьне Беларускага Дзяржаўнага Музэю.
3. Віцябскае Аддзяленьне Беларускага Дзяржаўнага Музэю.
4. Беларуская Драматычная Студыя.
5. Беларускі Дзяржаўны Тэатр.
6. Школа Глуханямых у Менску.
7. Польскі Пэдагагічны Тэхнікум.
8. Менскі Дарожна - Будаўнічы Тэхнікум.
9. Віцябскі Прамыслова-Эканамічны Тэхнікум.
10. Магілёўскі Мэдыцынскі Тэхнікум.
11. Вышэйшыя Беларускія Курсы.
12. Віцябская Прафэсыянальна-тэхнічная Школа Будаўнікоў.
13. Менская Прафтэхшкола Абутнікаў.
14. Магілёўская Прафтэхшкола Мэталістаў.
15. Магілёўская прафтэхшкола Абутнікаў.
16. Магілёўская Прафтэхшкола Будаўнікоў.
17. Агульнае памяшканьне Прафэсыянальна-тэхнічных школ.
18. Сталовая Прафэсыянальна-тэхнічных школ.
19. Клюб Прафэсыянальна-тэхнічных школ.
20. Цэнтр. Партыйная Школа.

Лічучы такія нядбалыя адносіны да наказаў НКАБ абсалютна немагчымымі, асабліва, калі вымагаюцца тэрміновыя справаздаўчыя весткі, катэгарычна прапануецца загадчыкам пералічаных вышэй установ паклапаціцца, каб весткі аб стане грашовых і матар'яльных каштоўнасьцяў ды інвэнтару былі дастаўлены не пазьней 15 бягучага студзеня, безадкладна паведаміўшы, на каго з тэхнічных працаўнікоў асабіста ўскладзена выкананьне гэтага загаду.

Да гэтага дадаецца, што спазьненьне ў дастаўцы памянёных вестак прымусіць на гэты ўжо раз паставіць пытаньне аб адпаведнасьці тэхнічных працаўнікоў свайму прызначэньню.

(№ 2, § 1, 3—I, 1925 г.).

———

Залічанаму на стыпэндыю (загад № 116, § 3) студэнту Цэнтральнага Інстытуту Арганізатараў Народнае Асьветы Цесьленку Хведару спыніць выдаваньне гэтае стыпэндыі з 1 студзеня 1925 г.

Студэнту Маскоўскага Межавога Інстытуту Масьневічу Раману з I студзеня 1925 г. вызначаецца стыпэндыя.

Абавязаць Масьневіча падпіскай, што ён, скончыўшы Межавы Інстытут, будзе знаходзіцца пад загадам НКАБ, ў залежнасьці ад чаго паставіць атрыманьне ім стыпэндыі.

Ардынатару акушэрскае клінікі Белар. Дзярж. Унівэрсытэту і Навуковаму супрацаўніку Мэдыцынскае Сэкцыі Інстытуту Беларускае Культуры Былінскаму Сьцяпану вызначаецца з I студзеня 1925 г. навуковая стыпэндыя па § 15 ст. 1 дзяржаўнага каштарысу 1924-25 году ў ліку 37 р. 50 к. што-месяц.

(№ 7, §§ 1-2,4 9—1, 1925 г.).

Даручаецца Грашова-Гаспадарчаму Аддзелу распрацаваць супольна з Галоўнай Управай па справах літэратуры і выдавецтва парадах паступленьня, перахаваньня ды выдаваньня спэцыяльных сум, якія паступаюць па памянёнай Управе, а таксама— формы рахункаводзтва па наказаных сумах.

Працу скончыць і праэкт прадставіць на 15 студзеня 1925 г.

(№ 10, § 1. 10—1, 1925 г.)

Камандыраванаму дзеля навуковае працы ў Навукова-дасьледчы Інстытут па мове і літэратуры пры Ленінградзкім Унівэрсытэце Некрашевічу Сьцяпану прызначаецца з І-га лютага навуковая стыпэндыя па § 15, ст. 1 дзяржаўнага каштарысу 1924-1925 году ў разьмеры 75р. што -месяц.

(№ 14, § 2-13—1, 1925 г.).

Паводле пастановы Камісіі пры Народным Камісарыяце Працы БССР ад 2 лістапада 1924 г. выплата за працу інструктарам прафтэхнічных школ устанаўляецца у разьмеры:

1. 68 руб. па школах у Менску і Віцябску.

2. 50 руб. па акруговых школах у Магілёве, Клімавічах, Бабруйску, Барысаве, Воршы і Слуцаку.

3. 40 руб. па раённых школах (у Гарадку, Чаусах і Горках).

Паводле пастановы камісіі пры Народным Камісарыяце Працы БССР ад 21 лістапада 1924 г. выплата за працу дырэктаром тэхнікvмаў з кастрычніка 1924 г. прызначаецца ў разьмеры васьмёхдзесяцёх рубл. з тым, што яны ня маюць права выкладаць у тэхнікуме больш як 12 гадзін у тыдзень, за якія выплачваецца на агульнай падставе з усімі настаўнікамі тэхнікуму.

Выкладаньне большага ліку лекцый, а таксама і іншая платная праца па-за тэхнікумам забараняецца.

(№ 15, §§ 1-2. 14—1, 1925 г.).

Загадчыку Вышэйшых Курсаў Беларусазнаўства выплата за працу прызначаецца ў разьмеры васьмёхдзесяцёх рублей з тым, што ён не павінен мець па-за курсамі больш як адзін комплект лекцый (з першага кастрычніка 1924 г.).

(№ 24, § 1. 19—1, 1925 г.).

## Па Галоўсацвыху.

І Абвяшчаецца да ведама і выкананьня умова НКАБ з Народным Камісарыятам Земляробства БССР (НКЗБ), аб пераходзе школ сялянскае моладзі пад загад НКАБ, такога зьместу:

### УМОВА

23-га гэтага сьнежня 1924 г. мы ніжэйпадпісаныя з аднаго боку Намесьнік НКАБ Паўла Власевіч, з другога—Намесьнік НКЗБ Эдмунд Русецкі ўлажылі гэтую умову вось аб чым:

1. НКЗБ перадае пад беспасярэдны загад НКАБ тры школы сялянскае моладзі—Лужасьнянскую, Слуцкую і Курасоўшчынскую, якія да гэтага часу былі падпарадкаваны НКЗБ.

2. НКЗБ перадае школы з усімі, што належаць ім, ці знаходзяцца ў іх карыстаньні, будынкамі, будоўлямі, фэрмамі, ворнай зямлёй і сенажацямі, паказальнымі палямі, ляснымі дзялянкамі, жывым і няжывым інвэнтаром і іншай рухомай і

нярухомай маемасьцью, а таксама з усімі тэхнычнымі прадпрыемствамі.

3. Усе школьныя будынкі з усімі школьнымі прыладамі, школьным інвэнтаром, бібліатэкай, Кабінэтамі перадаюцца НКАБ.

4. Увесь фураж і харчы, якія школы назапасілі, застаюцца за імі.

5. Усе крэдыты азначаных школаў, як прадугледжаныя па Дзяржаўнаму каштарысу на 1924-1925 г. так і іншыя (запасны фонд СНКБ і інш.) перадаюцца з 1-га студзеня 1925 г. НКАБ цалкам за вылічэньнем фактычна выдадзеных ім крэдытаў у першым квартале.

6. Асабовы склад школ, як пэдагогічны, так і агрономічны, адміністратыўна-гаспадарчы, тэхнічны і інш. прыймаюцца пад загад НКАБ.

7. Дзеля перадачы вышэй памянёных школ утвараюцца для кожнай школы камісія у складзе: прадстаўнікоў НКЗБ, НКАБ і адміністрацыі школы: Камісіі абавязаны зрабіць перадачу ўсяе маемасьці, паводле запісаў і дакументаў, склаўшы адпаведныя акты перадачы ў трох экзэмплярах, з якіх адзін перадаецца НКЗБ, другі НКАБ, а трэці застаецца ў школе. Да актаў павінны быць далучаны поўныя попісы ўсяе маемасьці школы.

8. Перадачу скончыць на 5 студзеня 1925 г.

———

II Даручаецца Віцябскаму, Менскаму і Слуцкаму Акр. АНА, на абшары кампэтэнцыі якіх знаходзіцца памянёныя тры школы, прыняць іх пад свой загад.

———

III Грашова-Гаспадарчаму Аддзелу НКАБ прапануецца паклапаціцца аб выкананьні п. 5 абвешчанае умовы.

———

IV Віцябскі і Слуцкі Акр. АНА, не адчыняючы новых школ сялянскае моладзі, павінны ўжыць усе грашовыя сродкі, якія ў іх ёсьць на гэты тып школаў, на школы, якія маюць быць ім перададзенымі паводле абвешчанае умовы.

(№ 3, §§ 1-4, 5—1, 1925 г.)

У дадатак да загаду № 214 § 1 ад 16 сьнежня 1924 г. дзеля неабходнасьці даць адпачынак настаўнікам вымагаецца ў дэфэктыўных установах БССР зімовы адпачынак ад школьных заняткаў: па Менску, Віцябску—з 11 па 31 студзеня, а ў рэшце дэфэктыўных устаноў, у тым ліку і ў Беларускім Інстытуце соцыяльнага перавыхаваньня — з 27 студзеня па 15 лютага. У часе адпачынку павінны адбывацца заняткі клюбнага характару.

(№ 8, § 2. 9-1, 1925 г.)

———

Будынак агульнага памяшканьня (Базарная, 11) для недарослых, якія працуюць у працоўных калектывах перадаць са ўсёй маемасьцю пад загад Менскага Акруговага АНА, на які ўскладаецца агульнае кіраваньне памяненым памяшканьням.

Прадстаўнікам НКА дзеля перадачы памяшканьня прызначаецца Загадчык складу НКА Бенцыян **Палер**.

(№ 10, § 2. 10—1, 1925 г.)

———

## 4. Па Галоўпрафасьветы.

На падставе пастановы СНКБ ад 6 сьнежня 1924 г. (пратак. № 50, ст. 685) аб пабудаваньні гмаху для Б. Д. У., утвараецца камісія пад старшыньством Намесьніка Загадчыка Галоўпрофасьветы Сьцяпана **Некрашэвіча** ў складзе: рэктара БДУ **Пічэты**, прадстаўніка ад праўленьня Унівэрсытэту і прадстаўніка ад Выканаўчага Бюро пралетарскага студэнцтва (Існолбюро), на якую ўскладаецца распрацоўка пляну падгатаваўчае працы і клопаты па складаньню проэкту гмаху.

Камісіі выканаць заданьне на 10 студзеня 1925 г.

(№ 222, § 2. 22—XII, 1924 г.)

———

Абвяшчаецца строгае вымаўленьне працаўніку Віцябскага Аддзяленьня Беларускага Дзяржаўнага Музэю **Зянковічу** Уладзіміру за тое, што ён выдаў духавенству неадпавядаючую праўдзе спраўку, нібыта мошчы Апрасіньні Полацкае

не маюць музэйнага і архэолёгічнага значэньня, тады як паводле дасьледаў на месцы выявілася якраз адваротнае.

(№ 11, § 1. 10—1, 1925 г.)

## Па Галоўпалітасьветы.

I Дзеля павялічэньня магчымасьцяй намыснага пашырэньня беларускага драматычнага мастацтва ўтвараецца пад кіраўніцтвам вядомага беларускага драматурга і артысты Уладыслава Галубка Беларуская Дзяржаўная Трупа са складу арганізаванае ім драматычнае грамады, якая разам з сваім кіраўнікам зрабіла за апошнія тры гады вялікую культурную працу сярод працоўных мас Беларусі.

---

II Зацьвярджаецца і абвяшчаецца да агульнага ведама ўзгодненае з Саюзам працаўнікоў мастацтва

### Палажэньне аб Беларускай Дзяржаўнай Трупе пад кіраўніцтвам Галубка.

1. Беларуская Дзяржаўная Трупа пад кіраўніцтвам Галубка мае сваім сталым месцам быцьця Менск і мае на мэце:

а) працяг сваёй папярэдняй працы па арганізацыі спэктакляў для шырокіх працоўных мас;

б) арганізацыю пэрыодычных падарожаў па провінцыі.

2. Трупа утрымоўваецца на грошы, якія асыгнуюцца урадам БССР, зборы ад спэктакляў і аднаразовыя дапамогі.

3. На чале трупы стаіць дырэктар Уладыслаў Галубок, як ідэйны і тэхнічны кіраўнік усяе працы, якая вядзецца па плянах, распрацоўваемых Мастацкай Радай Трупы.

Увага: з разьвіцьцём дзейнасьці Трупы ўтвараюцца пасады мастацкага кіраўніка, яго памоцнікаў, адміністратара і іншых па патрэбе працаўнікоў.

4. Дзеля распрацоўкі плянаў дзейнасьці Трупы ды вырашэньня пытаньняў прынцыповага і арганізацыйнага характару ўтвараецца Мастацкая Рада Трупы ў складзе: а) дырэктара—Галубка, б) прадстаўніка ад НКА, в) двох прадстаўнікоў ад Інбелкульту (па галінах літэратуры і мастацтва), г) прадстаўніка саюзу працаўнікоў мастацтва і д) двох прадстаўнікоў ад Трупы.

5. На мастацкую раду ўскладаецца:

а) падрыхтоўка рэпэртуару ў адносінах да выбару п'ес, апрацоўкі іх і перакладу на беларускую мову;

б) удзел у даборы працаўнікоў Трупы;

в) удзел у апрацоўцы вытворнага пляну, у тым ліку дэтальная распрацоўка плянаў пастановак Трупы ў Менску і падарожаў па провінцыі.

Увага: Пастановы Мастацкае Рады выконываюцца пасьля зацьверджэньня іх Галоўпалітасьветы.

6. Склад Мастацкае Рады зацьвярджаецца Народным Камісарыятам Асьветы Б.С.С.Р., які дэлегуе у склад яе свайго прадстаўніка і прызначае старшыню і сэкратара рады.

7. Сход Рады лічыцца законным, калі ёсьць прысутным ня менш пяцёх сяброў, у тым ліку старшыня ці сэкратар Рады і дырэктар Трупы.

Увага: Пры адсутнасьці старшыні яго абавязкі выконывае сэкратар.

8. Распарадчыкам крэдытаў паводле папярэдніх каштарысаў, зацьверджаных Народным Камісарыятам Асьветы, ёсьць дырэктар Трупы Галубок.

9. Склад Трупы і хору ўпоўнаважваецца Народным Камісарыятам Асьветы Б.С.С.Р. паводле згоды з Саюзам Працаўнікоў Мастацтва.

10. Унутранія профэсыянальныя нормы Унулююцца Саюзам Працаўнікоў Мастацтва.

11. Трупа мае штамп і круглую пячатку з надпісам: „Беларуская Дзяржаўная Трупа пад кіраўніцтвам Галубка“, у цэнтры пячаткі азбражацца эмблема Трупы, якая мае быць апрацована Мастацкай Радай.

III Прадстаўнікам у Мастацкую Раду ад Наркамасьветы прызначаецца Мікола **Красінскі**, якому даручаецца паклапаціцца аб правядзеньні ў жыцьцё вышэй пісанага палажэньня ды аб арганізацыі Мастацкае Рады

(№ 221, §§ 1-3, 22-XII, 1924 г.).

---

Прыняцьце па Менску двох кіно, якія перадаюцца пад загад Белгоскіно, паводле п. 1 пастановы СНКБ ад 17-сьнежня 1924 г. даручаецца праізьвесьці галоўнаму Палітыка—асьветнаму камітэту.

## Па Жыдоўскаму Бюро.

Маючы на ўвазе, што Курасоўшчынская школа сялянскае моладзі зьяўляецца адзінай школай сялянскай моладзі на жыдоўскай мове і што склад вучняў упоўналічван жыхарамі з усіх акругаў Беларусі, прыняць памянёную школу пад загад НКАБ. Беспасёрэднае кіраваньне школай і кантроль за працай ускладаецца на жыдоўскае Бюро НКАБ, якое мае безадкладна прыняць школу пад свой загад.

(№ 11. § 2. 10—1, 1925 г.)

## Зьмены ў складзе працаўнікоў НКАБ.

### Па Кіраўніцтву Спраў.

Загадчыкам управы па справах кіно прызначаецца **Галкін** Абрам з 16 сьнежня 1924 г.

(Заг. № 225. §§ 1-II 25-XII, 1924г.)

### Па Галоўсацвыху.

Загадчык Школы Глуханямых **Языкоў** Мікола рызначаецца настаўнікам-выхавальнікам з 21-га студзеня 1925 году з аслабаненьнем яго ад абавязкаў загадчыка школы.

Часова спаўненьне абавязкаў загадчыка школы ўскладаецца на **Дашкевіч** Аляксандру.

(Заг. № 29 § 1.29—1,1925 г.)

### Па Галоўпрафасьветы.

Намесьнік Загадчыка Галоўпрафасьветы **Некрашэвіч** Сьцяпан адкамандыроўваецца дзеля навуковай працы ў Навукова-Дасьледчы Інстытут па мове і літэратуры пры Ленінградзкім Унівэрсытэце з аслабаненьнем ад абавязкаў па пасадзе Намесьніка Загадчыка Галоўпрафасьветы.

(Заг. № 14, § 1. 13—1, 1925)

---

Зацьвярджаецца на 1924-1925 школьны год вось які склад Прэзыдыуму Рабфаку.

**Слонім** Самуіл—Загадчык Рабфаку.

**Шкляяў** Мікола—Нам. Загадчыка і Загадчык вучэбнай часткі.

**Сімановіч** Юры—Сэкратар Прэзыдыуму Рабфаку.

**Дубатоўка** Анупрэй—Прадстаўнік ад студэнтаў Рабфаку.

---

Загадчык Рабфаку **Тэпін** Васіль прызначаецца асыстэнтам па катэдры мэтодыкі мовы і літэратуры на Пэдагагічным Факультэце Б. Д. Ун. з аслабаненьнем яго ад абавязкаў Загадчыка Рабфаку і з захаваньнем за ім пасады настаўніка Рабфаку.

(№ 26, §§ 1-2. 21—1, 1925 г.)

### Па Галоўпалітасьветы.

Паводле п. 6. Палажэньня аб Беларускай Дзяржаўнай Трупе пад кіраўніцтвам Галубка зацьвярджаецца вось які склад мастацкай рады Трупы: 1. Дырэктар Уладыслаў **Галубок**. 2. Прадстаўнік ад НКАБ—Мікола **Красінскі**, 3. Прадстаўнік ад Інбелкульту—Міхал **Грамыка**, 4. Прадстаўнік ад саюзу працаўнікоў мастацтва—Аляксандар **Крымскі**, 5. Прадстаўнікі ад Трупы—Масей **Грынблят** і Міхал **Іванцоў**.

Старшынёй рады прызначаецца Міхал **Грамыка** а сакратаром—Мікола **Красінскі**.

(Заг. № 8, § 1. 8—1, 1925 г.)

### Па жыдоўскаму Бюро.

**Эфрон** Масей прызначаецца інструктарам Жыдоўскага бюро з 5 студзеня 1925 г.

(Заг. № 5, § 6. 7—1, 1925 г.)

## АБЕЖНІКІ НКАБ.

### Па Кіраўніцтву Спраў.

### Аб нядапушчэньні да працы кандыдатаў на пасады інспэктароў да зацьвярджэньня іх НКАБ.

*Акруговым Аддзелам (№ 8830—15-XI. 1924 г.).*

Практыка выявіла, што Акруговыя АНА, прадстаўляючы ў Наркамасьветы кандыдатаў на пасады Інспэктараў, разам з тым аўтаматычна дапушчаюць гэных кандыдатаў да практычнага спаўненьня сваіх абавязкаў; між тым Наркамасьветы, падыходзячы вельмі асьцярожна да замяшчэньня інспэктарскіх пасад, можа часта спаткаць перашкоды да назначэньня таго ці іншага кандыдата, што ў сваю чаргу створыць на мясцох непажаданыя непаразуменьні.

Дзеля гэтага катэгорычна ўскладаю на абавязак Загадчыкаў Акруговых АНА ўтрымліваецца ад дапушчэньня да спаўненьня абавязкаў тых кандыдатаў, якія зацьвярджаюцца на сваіх пасадах цэнтрам, даючы адначасна з прадстаўленьнем дакумэнтаў самыя дакладныя весткі аб кандыдатах: 1) імя і імя бацькі, 2) час нараджэньня, 3) нацыянальнасьць, 4) родная мова, 5) асьвета, 6) дзе працаваў дагэтуль, 7) пэдагогічны стаж, 8) ці ўладае беларускай мовай (умее пісаць і гутарыць), 9) партыйнасьць і адносіны да савецкае ўлады.

Намесьнік НКАБ *Баліцкі.*

Кіраўнік спраў *М. Красінскі.*

### Аб адчыненьні самім жыхарствам і грамадзянснімі арганізаціямі даш ольных устаноў.

*Акруговым Аддзелам Народнае Асьветы Жаночым Аддзелам, Акруговым Аддзелам Саюзу Працасьветы. (№ 8880, 17—XI, 1924 г.).*

З прычыны вельмі слабога абслугоўваньня дзяцей дашкольнага ўзросту сецьцю дашкольных устаноў і вялікай патрэбы жыхарства ў гэтых установах, а таксама прымаючы пад увагу адсутнасьць матар'яльных сродкаў, установам Наркамасьветы няма ніякае магчымасьці самім пашырыць гэтую сетку. На аснове азначнага Наркамасьветы лічыць самым неабходным і свячасным прыцягнуць да справы разьвіцьця сеці гэтых устаноў грамадзкую ініцыятыву ў асобах: ЛКСМ-Профсаюзаў, Фабзаўкомаў, Каапэратываў, Жанаддзелаў і іншых грамадзкіх організацый. Дзеля прыцягненьня грамадзкай ініцыятывы ў справе адчыненьня цэлага раду дашкольных устаноў неабходна папярэдня павесьці шырокую прапаганду па гэтаму пытаньню паміж вышэйазначаных грамадзкіх арганізацый.

Пры адчыненьні дашкольных устаноў грамадзкімі арганізацыямі ў раёнах Акруговым Аддзелам Народнае Асьветы ў асобе іх органаў неабходна мець на увазе аб ніжэйнаступным:

1. Каб для гэтае установы было адпаведнае памяшканьне, а таксама неабходнае абсталяваньне і патрэбныя вучэбныя прылады і падсобнікі; 2) каб быў адпавядаючы пэдагагічны пэрсонал; 3) каб гэтая установа з матар'яльнага боку магла ўтрымліваецца на аднолькавых умовах з установамі ўвайшоўшымі ў сетку, як з боку гаспадарчага, гэтак і з боку аплаты пэнсіі пэрсаналю, а таксама харчаваньня дзяцей, 4) назначэньні пэрсоналю, а таксама ўвесь нагляд і кіраваньне гэтымі установамі як з боку ідэёвага, гэтак і матар'яльнага павінен быць за Аддзелам Народнае Асьветы; 5) пры наліччу азначаных вышэй умоў арганізацыі, адчыняючыя дашкольную установу, робяць дагавор на выдаткі па ўтрыманьню гэтае установы, выключаючы аплату пэнсіі пэрсаналю, з Аддзеламі Народнае Асьветы, а на аплату пэнсіі пэрсаналю з Саюзам Працасьветы: 6) па злажэньні дагавору А Н А дае дазвол на адчыненьне організацыяю дашкольнае установы, пасьля гэтага установа гэтая А Н А ўносіцца ў агульную сетку дашкольных устаноў, аб чым паведамляецца Наркамасьветы, куды дастаўляюцца

ўсе зьвесткі па гэтай установе нараўне з такімі установамі ужо існуючымі па сетцы, 7) А. Н. А. з аднаго боку і Саюз Працасьветы з другога боку наглядаюць за своечасным і акуратным паступленьнем ад арганізацый, адчыніўшых дашкольную установу, сродкаў на ўтрыманьне гэтае установы; 8) у выпадку, па якіх-колечы прычынах, зачыненьне гэтае установы ўся маемасьць яе пераходзіць у ўласнасьць А Н А.

Загадчык Галоўсацвыху *Каранеўскі.*
Гл. Дашкольн. Інспэктар *Папова.*
Сэкратар *Бакіноўскі.*

**Аб выпісьцы часопісу „Власть Советов“.**

*Акруговым Аддзелам НКАБ і Установам агульна-рэспублікі значэньня. (№ 9665—12/XII 1924 г.).*

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт БССР адносьнікам ад 25/XI б/г. за № 1726 паведаміў, што згодна пастановы ЦВК СССР ад 25/III б/г. выдаецца журнал „Власть Советов“.

Прымаючы пад увагу, што памянёны журнал мае на мэце вывучэньне і асьвятленьне ў друку арганізацыйна-адміністрацыйнай, гаспадарчай і социяльна-культурнай дзейнасьці савецкага апарату, Народны Камісарыят Асьветы Беларусі лічыць пажаданым, каб культурна-асьветныя установы выпісвалі часопісь „Власть Советов“ дзеля азнаямленьня з ім савецкіх працаўнікоў.

Намесьнік НКАБ *Валасевіч.*
Кіраўнік спраў *М. Красінскі.*

**Аб узгадненьні працы школьных фарпостаў са школьнай адміністрацыяй.**

*Акруговым Аддзелам Народнае Асьветы; Акруговым Камітэтам Саюзу ЛКСМ; Акруговым Бюро Маладых Піанэраў. (№ 10074, 27—XII, 1924 г.).*

Па адтрыманых у Наркамасьветы і Цэнтральным Бюро Юных Піанэраў зьвестках на мясцох бываюць выпадкі вынікаНьня пярэчаньняў паміж школьных фарпостаў з школьнымі саветамі і адміністрацыяй, якія пярэчаньні затым пераходзяць у зусім непажаданыя і непатрэбныя спрэчкі.

У абежніку, якія распрацованы ЦКЛКСМБ сумесна з Народным Камісарыятам Асьветы і разасланы 15 лістапада 1924 г. за № 8820 *) вызначаны самым падрабязным чынам мэты і абавязкі як школьных саветаў, гэтак і школьных форпостаў і адміністрацыі, а таксама яскрава адзначаны ў гэтым абежніку суадносіны фарпостаў дашкольных саветаў і адміністрацыі і наадварот, апрача гэтага паказана, як павінны вырашацца спрэчныя пытаньні (п. 15 памешчанага абежніку).

На аснове памешчанага прапануецца няўхільна прытрымлівацца адзначнага вышэй абежніку і ні ў якім разе не дапускаць ніякіх спрэчак паміж школьнымі фарпостамі з школьнымі саветамі і адміністрацыяй, а ўсе вынікаючыя пярэчаньні вырашаць паміж сабою сумесна з мясцовым Бюро Юных Піанэраў і інспэктурай Сацвыху.

Неабходна зьвярнуць асобую увагу вывучэньня пытаньняў, на якім грунце вынікаюць пярэчаньні паміж фарпостамі і настаўніцтвам і як апошняе адносіцца да яго работы. Аб характэрных момантах даводзіць да ведама ЦКЛКСМБ і НКА. Апрача гэтага прапануецца абавязкова на школьных саветах на розных школьных сходах і г. д. ставіць інфармацыонныя даклады школьных фарпостаў, якія павінны нагул інформіраваць аб сваёй працы і дзейнасьці. Для правядзеньня поўнасьцю ў жыцьцё вышэйадзначнага абежніку прапануецца павесьці шырокую прапаганду паміж працаўнікоў Сацвыху, ставячы аб гэтым пытаньні на ўсіх сходах, зьездах, канфэрэнцыях і г. д. па якіх падрабязна высьвятліць ролю школьных фарпостаў у школе і дзіцячым ру-

---

*) Абежнік № 8820 будзе зьмешчаны ў наступным нумары.

ху, а таксама наогул павесьці шырокую папулірызацыю па гэтаму пытаньню.

Нам. Наркамасьветы *Валасевіч.*

Загадчык Галоўсацвыху *Папова.*

Сэкратар ЦКЛКСМБ *Самановіч.*

Намесьнік Старшыні ЦБ Маладых Піанэраў *Розэнблюм.*

---

### Аб адчіненьні школаў сялянскае моладзі.

*Акруговым Аддзелам НКАБ. (№ 10129-30/XII 1924 г.).*

Ад некаторых Акруговых Выканаўчых Камітэтаў і Аддзелаў Народнае Асьветы ў Наркамасьветы паступаюць пастановы аб адчыненьні па дзьве школы сялянскай моладзі на акругу.

Наркамасьветы, прылаючы вялікае значэньне гэтым школам і маючы на мэце школу гэтую зрабіць масаваю школаю для дзяцей сялянскай моладзі, находзіць неабходным, раней чым прыступіць да масавай арганізацыі гэтых школ, папярэдня дэтальна распрацаваць у сувязі з практычным правядзеньнем ў жыцьцё ў школах падрабязнага пляну і праграм школы.

Прымаючы пад увагу, што школы сялянскай моладзі ў наступіўшым школьным годзе толькі-што пачынаюць арганізоўвацца, дзякуючы чаму яны пакуль-што практычна прапрацованага пляну і праграм ня маюць, з гэтай прычыны патрэбна ўсю ўвагу зьвярнуць на тое, каб у гэтым годзе дэтальна былі прапрацованы плян і праграмы гэтае школы, дзеля гэтага ўсе матар'яльныя і пэдагагічныя магчымасьці непавінны раскідацца, а павінны быць аб'яднаны ў адно месца, дзе бязумоўна лягчэй будзе больш дэтальна прапрацаваць як плян заняткаў, гэтак і праграму школы.

На аснове зьмешчанага, Наркамасьветы прапануе ўсім ААНА ў гэтым школьным годзе астанавіцца на арганізацыі толькі па аднэй школе на акругу, зьвярнуўшы асаблівую увагу для дэтальнай прапрацоўкі ў ёй плянаў і праграм, на аснове дадзеных указаньняў Наркамасьветы.

Намесьнік НКАБ *Валасевіч.*

Загадчык галоўсацвыху *Л. Папова.*

Сэкратар *Б. Бакіноўскі.*

### Аб недапушчальнасьці перадаваньня ў суд спраў аб недарослых да 14 гадоў.

*Камісіям па справах аб недарослых і судовым установам БССР. Копія Акруговым Аддзелам Народнае Асьветы.*

*(№ 10163—31 сьнежня 1924 г.)*

Заўважаны выпадкі, калі некаторыя камісіі па справах аб недарослых адмаўляюцца прымаць на разгляд справы аб недалетках праваparушніках да 14 гадоў, якія неаднакроць судзіліся ды ўцякалі з дзіцячых калёній, лічучы, што такія дзеці не паддаюцца мэдычна-пэдагагічным уплывам і таму падлягаюць кары ў агульна-судовым парадку.

Між тым, на моцы ст. 18 Карнага Кодаксу, ў адносінах да недалеткаў кара ня ўжываецца і, такім чынам, суд ня мае права прымаць справы аб такіх недалетках на свой разгляд. З другога боку дзеці да 14 год ня могуць лічыцца ўжо канчальна склаўшыміся ў адносінах маральнасьці і зусім безнадзейнымі ў сэнсе іх выпраўленьня, ня гледзячы на сваю, як выдаецца, папсутасьць, чаму адмова ад усялякіх далейшых спроб мэдычна-пэдагагічных уплываў на такіх дзяцей ёсьць бязумоўна няправільнай.

Камісіі па справах аб недарослых абавязаны прымаць на свой разгляд справы аб недалетках праваparушніках, якім няма 14 гадоў, ужываючы да іх адпаведныя спосабы мэдычна-пэдагагічных уплываў. У агульныя суды могуць перадавацца, паводле ст 18 К.К. толькі справы аб недарослых ад 14 да 16 год, калі камісія знойдзе не-

магчымым абмяжавацца ў адносінах да іх паказанымі спосабамі.

Вышэй пісанае Народныя Камісарыяты Асьветы і Юстыцыі прапануюць прыняць да ведама і выкананьня.

Намесьнік НКАБ *Валасевіч.*
Час. сп. абав. НКЮБ *Домбург.*
Кіраўнік Спраў
НКАБ *М. Красінскі.*

**Аб умовах адсылкі выхаванцаў дзіцячых дамоў у Менскія больніцы на вылячэньне.**

*Акруговым аддзелам народнае асьветы. (№ 1094—7/II, 1925 г.).*

Шмат якія ААНА прысылаюць дзяцей сваіх дзіцячых дамоў у Менск на вылячэньне і патым забываюць аб іх, а часта і заўсім выключаюць з ліку выхаванцаў сваіх дзіцячых дамоў.

Калі дзеці здаравеюць, то ўстановы, у якіх яны знаходзіліся на вылячэньні, аказваюцца ў вельмі цяжкім палажэньні, бо у іх няма сродкаў, каб адаслаць дзяцей ў тыя дзіцячыя дамы, з якіх яны прыбылі, а дзіцячыя дамы ня лічаць сябе абавязанымі прымаць сваіх дзяцей пасьля іх вылячэньня.

Каб зьліквідаваць гэтую ненармальнасьць, Галоўсацвых НКАБ прапануе ўсім Акружным Аддзелам Народнае Асьветы прытрымлівацца гэткага парадку: пры памяшчэньні выхаванца з дзіцячага дому ў больніцу, ў Менску, канечна даваць больніце абавязак прыняць назад выхаванца пасьля яго выздараўленьня і передаваць гэтай больніце неабходную колькасьць грошаў на адсылку выхаванца ў яго дзіцячы дом.

Бяз гэтай ўмовы дзеці ня будуць прымацца ў больніцы.

Зам. Наркамасьветы *Баліцкі.*
Заг. Аддз. Прав.
Абароны *Найхіна.*
Кіраўнік Спраў *М. Красінскі.*

**Аб недапушчальнасьці зьмены ў абвестках (афішах) назоваўп' есаў і абавязковым паказаньні прозьвішчаў аўтараў.**

*Акруговым Аддзелам Народнае Асьветы. (№ 1 14—II, 1925 г.).*

Заўважана, што некаторыя драматычныя трупы, атрымліваючы дазвол на пастаноўку п'ес, даволі часта зьмяняюць у абвестках (афішах) іх назовы, маючы на мэце выклікаць такой зьменай асаблівую цікавасьць публікі, ці проста ствараць не адпавядаючае праўдзе ўражаньне. Таксама амаль, што не заўсёды ў абвестках не паказваецца прозьвішча аўтара.

Прымаючы пад увагу, што такія зьявішчы вельмі перашкаджаюць Галоўнай Управе па справах літэратуры і выдавецтва ў яе працы па правільнаму падліку відовішчаў, прапануецца вам на будучыню з асаблівай увагай сачыць за памянёнымі вышэй імкненьнямі драматычных труп, рашуча не дапушчаючы ў абвестках ніякіх зьмен у назовах п'ес і вымагаючы, каб абавязкова паказываліся прозьвішчы аўтараў.

За Народнага Камісара Асьветы
БССР *Каранеўскі*
Загадчык Галоўнае Управы
па Справах літэратуры і
выдавецтва *Арэшнікаў.*
Кіраўнік Спраў *М. Красінскі.*

**Інфармацыйнае пісьмо НКАБ і НКЗБ аб арганізацыі школ сялянскае моладзі,**

*Акруговым Зямельным Аддзелам Акруговым Аддзелам Народнае Асьветы. Копія Акруговым Выканаўчым Камітэтам. (№ 8406—29/X 1924 г.).*

Паважаныя тварышы.

Нязначны культурны уравень сялянскіх мас і слабае разьвіцьце сельскай гаспадаркі нашай Рэспублікі тлумачыцца у значнай меры недахваткам у сялян належных ведаў аб тых спосабах, якія неабходна ужываць у сельскай гаспадарцы пры апрацоўцы зямлі.

КПБ, прыдаючы
справе распаў-
х ведаў,і асаблі-
рчых, сярод пра-
ягучым годзе ад-
Акругу па аднэй
ьска - гаспадарчай
моладзі.
авінны даць па-
льтурных гаспа-
добрых грамад-
зя.

Мясц... упольна з ЛКСМ павінны ...ца аб найхут-чэйшым ад...ні адзначных школ, утрыман... кіх уваходзіць ў мясцовы бюджэт.

Нарком Асьветы і Нар. Кам. Зем. зварочваецца з просьбаю да усіх устаноў і грамадзянскіх арганізацый зрабіць усе магчымыя крокі да арганізацыі гэтых школ, дзеля чаго ім павінны быць адведзены патрэбныя зямельныя вучасткі, дадзена адпаведная будова, патрэбны інвентар, школьнае абсталяваньне і грашовыя сродкі для нармальнага разьвіцьця гэтых школ.

Намнаркамасьветы *Баліцкі.*

Нам. Нар. Кам. Зем. *Русэцкі.*

## ХРОНІКА.

— Нам. Наркамасьветы тав. Баліцкі 16 студзеня 1925 г. прыбыў з водпуску і прыступіў да спаўненьня абавязкаў.

— На час камандыроўкі ў раёны Наркома Асьветы Ўсевалада Ігнатоўскага, ягоных Намесьнікаў Антона Баліцкага і Паўлы Валасевіча агульнае кіраўніцтва НКАБ і распараджэньне крэдытамі ўскладаецца на Загадчыка Галоўсацвыхам Язэпа Каранеўскага, які будзе падпісываць паперы за Наркамасьветы, з аслабаненьнем яго на гэты час ад беспасрэднага кіраўніцтва Галоўсацвыхам.

Беспасрэднае кіраўніцтва Галоўсацвыхам часова ўскладаецца на Галоўнага Дашкольнага Інспэктара Любоў Папову.

— На час камандыроўкі ў раён Загадчыка Галоўпрафасьветы Аўгена Усьпенскага абавязкі яго ўскладаюцца на Язэпа Каранеўскага.

— Плянавае школьнае будаўніцтва ў 1924-25 школьным годзе прапануе пабудаваць школьные будынкі:

1. па Бабруйск. Акр.—15 школ
2. „ Барысаўск. „ 9 „
3. „ Мазырскай „ 9 „
4. „ Менскай „ 15 „
5. „ Слуцкай „ 8 „

— З прычыны тое, што ў сучасны момант уся увага павінна быць зьвернута на работу ў вёсцы, якая ускладаецца на актыўных працаўнікоў, усе зьезды вызначаныя на люты месяц, адкладаюцца, ў тым ліку і Ўсебеларускі зьезд па Дашкольнаму Выхаваньню таксама аткладаецца.

Аб часе адчыненьня гэтага зьезду будзе своечасна паведамлена.—

— Н К А Б, даручыў усім Камісіям Інбелкульту ня спыняць працы на час яго рэарганізацыі, працуючы ў тым самым складзе, як яны працавалі дагэтуль.

— *Беларускія каротка-тэрміновыя настаўніцкія курсы НКА. РСФСР. у Менску.*

Курсы былі арганізаваны для настаўнікаў беларускіх частак Гомельшчыны й Смаленшчыны, Мэта курсаў—падрыхтаваць настаўнікаў да пераводу выкладаньня ў школах на беларускую мову.

Адчыніліся курсы 20 сьнежня 1924 г і зачыніліся 23 студзеня 1925 году.

Усяго на курсы прыехала 30 чалавек. З гэтага ліку з Рэчацкага павету прыехала 17 асоб, з Гомельскага павету 11 асоб і з Смаленшчыны 2 асобы.

На курсах чыталіся гэткія дысцыпліны: 1) беларуская мова, 2) мэтодыка мовы, 3) гісторыя беларускае літэратуры, 4) гісторыя беларускага народу, 5) радзіназнаўства і краязнаўства, 6) програмы ГУС-а ў беларускіх умовах, 7) дзяржаўнае будаўніцтва БССР. і 8) піанэрскі рух і школа.

Усе пералічаныя дысцыпліны разам з гуртковай працай заняли 195 гадзін.

Беларуская Дзяржаўная Бібліятэка

Курсанты карысталіся інтэрнатам і атрымлівалі на харчаваньне па 1 р. 25 к. на дзень. Апроч гэтага ім былі дадзены падручнікі і пісьмовыя прылады. Кожны курсант адтрымаў добра складзеную беларускую бібліотэку.

Для школ прымяркованых да пераводу на бел
дадзены гэткі
роў Некрашэві
(ягож) ч. I 144(
785, Першыя кр
1440.

Загадваў курс
пэдтэхнікуму Ра

## Ад рэдакцыі час. „Асьвета“.

Рэдакцыя „Асьветы“ паставіла сабе мэтаю зра
шым дарадчыкам і памочнікам кожнага культурна
ніка. З гэтаю мэтаю рэдакцыя лічыць патрэбны
году выпускаць часопісь штомесячна.

Каб ахапіць усе бакі працы й жыцьця асьв
бліжэйшым часе гэтакія аддзелы:

1) **Агульны аддзел,**
2) **Мэтадалёгія і практыка,**
3) **Перападрыхтоўка,**
4) **Сярод моладзі,**
5) **Наш быт,**
6) **Інфармацыя і хроніка,**
7) **Перапіска з чытачамі,**
8) **Кнігапіс.**

Рэдакцыя просіць усіх зацікаўленых выказваць свае пажаданьні, свае увагі, высьвятляць сваё жыцьцё й працу і жыцьцё і працу сваіх колег.

З свайго боку рэдакцыя прымае ўсе меры к таму, каб часопісь выходзіла й рассылалася сваечасова й акуратна і калі бываюць затрыманьні, то не па віне рэдакцыі.

Усякія допісы просьба накіроўваць па адрасу: Менск, Пляц Волі. Н К А., рэд. час. „Асьвета“,

Увага: № 4 здадзен у друк, а к 15-му лютага г. г. зьбіраюцца матар'ялы для № 5.

**Рэдакцыя.**

**Памылкі друку, заўважаныя ў № 1 „Абвесьн ку“:**

| Стар. | Шпальта | Радок | Надрукована. | Павінна быць |
|---|---|---|---|---|
| 1 | — | 8 зьв. | № 2-21 | № 23-2 |
| „ | — | 12 зьв. | атварыць | стварыць |
| „ | — | 6 зьн. | дарады | парады |
| 3 | Лев. | 3 зьн. | 2 | 1 |
| 3 | „ | 4 зьн. | Паседжаньне | Пасяджэньне |
| 5 | Прав. | 25 зьв. | 1 (735) | 12 (735) |
| | | 19 зьн. | 2 (736) | 13 (736) |
| 6 | Лев. | 6 зьв. | 3 (737) | 14 (737) |
| | | 16 зьв. | 4 (743) | 15 (743) |
| | | 20 зьн. | 5 (744) | 16 (744) |
| | | 14 зьн. | 6 (747) | 17 (747) |
| 10 | Прав. | 22 зьн. | Адміністра-цыўнымі | Адміністра-тыўнымі |
| 11 | — | Спачатку старонкі. | | Па Гал. Управе праф. тэхнічнай асьветы |
| 14 | Прав. | 20 зьн. | ведамасьцяй | ведамасьцяў |

**Рэдактор—выдавец.**
**Народны Камісарыят Асьветы Б.С.С.Р.**

Галоўлітбел № 6970. 1-я Дзярж. друк. Зак. № 2206—1000 экз.

151880
10017 3.